# к. чукоўскі



# ПЕРАБЛЫТАНКА

«ПЛАНЕТА ДЕТСТВА»

Закрычэлі кацяняты:
— Мяўкаць надакучыла!
Лепей мы, бы парасяты,
Рохкаці навучымся!

А за імі — качаняты:
— Не жадаем болей кракаць!
Хочам мы, як жабяняты,
Квакаць!

Парасяты мяўкаюць
мяу! мяу!
Кацяняты рохкаюць
рох-рох-рох!

Качаняты квакаюць —
ква-ква-ква!
Кураняты кракаюць —
кра-кра-кра!

Верабейка прыляцеў,
Бы карова, замычэў:
— Му-у-у!

А мядзьведзь прабягаў,
Дык зароў-застагнаў:
— Кукарэку!

Толькі зайка-шарачок
Не патрапіў на кручок:
Не квахтаў, не варкатаў,
Пад капустаю ляжаў,
Па-заечы лапатаў:

Хто спрадвеку варкатаў,
хай не квохча.
Хто спрадвеку сакатаў —
не варкоча.

Бо не будзе варона кароваю,
Пад аблокамі жабкі не лётаюць!



Ды вясёлыя рабяты -
Парсючкі, мядзведзяняты -
Гэту зайцаву навуку
Прапусцілі міма вуха.

Рыбы па палёх гуляюць,
Жабкі ў неба узлятаюць,
Мышы котку палавілі
Ды у пастку пасадзілі.

А сарокі ды сінічкі
Недзе скралі запальнічку,
Падпалілі ў моры хвалі,
Разам хвалі запалалі!

Мора полымем гарыць!
Выбягае з мора кіт:
— Гэй, пажарныя, бяжыце!
Гэй, ратуйце! Гэй, тушыце!

Доўга-доўга кракадзіл
Мора сіняе тушыў
Пірагамі ды блінамі,
Ды салёнымі грыбамі.
— Не, за бедства за такое
Трэба брацца талакою!

Прыбягалі мышкі -
Палівалі з лыжкі.
Дзве малых заранкі
Пырскалі са шклянкі.
Праплывалі яршы -
Неслі поўныя каўшы.

Тушаць-тушаць — не затушаць,
Заліваюць — не зальюць!

Раптам прыляцеў матыль!
Узмажнуў крылом — пыль-пыль! -
Стала мора затухаць
І затухла





Заскакалі звераняты,
Жабяняты, птушаняты.
Вушкамі захлопалі,
Ножкамі затопалі.

Гусакі ўзгадалі зноўку
Гусачыную гаворку —
га-га-га!



Котачкі завуркаталі —
вур-вур-вур!
Курачкі засакаталі —
ко-ко-ко!



Мышкі запішчэлі,
Свінкі завішчэлі,
Жабяняты квакаюць,
Качаняты кракаюць,

Салаўі спяваюць,
Ганначку люляюць
Любую маю:
Баюшкі — баю!



*Для дошкольного возраста*

**Корней Иванович Чуковский**

# ПУТАНИЦА

*Сказка*

*Книжка-игрушка с вырубкой*

**Художник М. Бондаренко**



## by Urus Hyby
## пераклад Алена Церашкова


Редактор *Г. Коненкина.* Художественный редактор *О. Ведерников*
Технический редактор *Т. Тимошина.* Корректор *И. Мокина*
Компьютерная вёрстка *А. Бодрова*
Подписано в печать с готовых диапозитивов 21.04.2003.
Формат 60x90/8. Усл. печ. л. 0,8. Доп. тираж 10 000 экз. Заказ № 925

**ООО «Издательство Астрель»**
143900, Мос. обл., г. Балашиха, пр-т Ленина, д. 81
**ООО «Издательство АСТ»**
368560 Республика Дагестан, Каякентский район,
сел. Новокаякент, ул. Новая, д. 20

Санитарно-эпидемиологическое заключение № 77.99.10.953. П.000009.01.03 от 10.01.2003
Наши электронные адреса: WWW.AST.RU
E-mail: astpub@aha.ru

Общероссийский классификатор продукции ОК-005-93, том 2;
953000 — книги, брошюры

ISBN 5-17-012803-7 (ООО «Издательство АСТ»)
ISBN 5-271-03924-2 (ООО «Издательство Астрель»)





ФГУП «Фабрика офсетной печати №2» Министерства
РФ по делам печати, телерадиовещания и средств
массовых коммуникаций.
141800, г. Дмитров Московской обл., Московская, д. 3.




